НЯДЗЕЛЯ 21 ВЕРАСЬНЯ 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ГОД І. ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ № 14.

**По Базыльянскія муры**, у якіх заснаваліся глаўныя беларускія ўстановы, як Беларуская Рада, Бел. Нацыян. Камітэт Белар. Гімназыя ды інш.







Галоўная брама пры Вострабрамскай вул. № 9.

# НАШЫ ПЕСЬНЯРЫ.



**КАРУСЬ КАГАНЕЦ (Казімір Кастравіцкі) с сынам**

У творах яго адбіваецца тая старасьвецкая Беларусь, атуленая пушчамі, лугамі, абвеяная казкамі мінулых зруйнаваных замчышчаў беларускіх князёў. Ен меў вялікі ўплыў на ўсіх маладых беларускіх пісьменнікаў сваім бязмежным каханьнем роднага краю, роднай мовы. Ен лічыцца духоўным бацькам усіх працаўнікоў беларускага руху.

Вось што аб ім піша адзін з вядомых беларускіх дзеячоў А. Уласоў:

„...Я помню, якое сьвяшчэннае моцнае ўражэньне зрабіў на нас маладых хлопцаў 15—17 гадоў таму назад першы беларускі верш прачытаны нам К. Кастравіцкім. Мы былі маладымі хлопцамі — энтузіастамі. Ад барадатай прысадзістай фігуры аўтора, насіўшага кажух, боты і падпіразанага поясам, веяло такой моцнай несакрушымай верай, што „Беларусь трэба падымаць“. Романтызм старога народнічэства, але беларускага, меў сваім можа ядыным прэдстаўнікам Кастравіцкага. Самая дубовая Александроўская рэакцыя і сыстэма абрусіцельства была ў поўным расквіце. Адазваціа гімназісту, што ён беларус, было тое самае, што зрабіць вялікі чын Муцыя Сцэволы або голым прайці па вуліцы. І выгналі-б з гімназіі за такую „крамолу“, бо гэтта „істінна-русскі край“...

К. Каганец памер 29 мая 1918 г. ў фальварку Юцкі, Койданоўскай воласьці. Пахаваны ў Новасёлках.

# Мой родны край!...

Мой родны Край! Старонка сумная! —
За што Цябе любіць?—калі б спытаўся хто,—
што адказаць,—ня ведаў сам бы я,—
скуль гэтая любоў? дзеля чаго? за што?
— — — — — — — — — — —
Каменьне вострае крывава раніць ногі,
дрыжыць ў паветры плач старых бяроз...—
Хаця мне жудасна, ня зыйду я з дарогі,
ня кіну край, гдзе я радзіўся, рос... —
— — — — — — — — — — —
Старонка родная! на што Цябе любіці
і на ахвяру ўсё жыцьцё Табе даваць?
Ці ж не ляпей пад іншым небам жыці,
забыць Цябе, пакінуць, родна маць?...
— — — — — — — — — — —
Там гдзесь сады цьвітуць без мала праз
год цэлы,
там неба сіняе, німашака там хмар,
людзкія тамака здароўем дышуць целы
і абыймаё дух мастацтва дзіўны чар...

Там Вінчі, Рафаэль, Анжэльлё, Тыцыан,
глядзяць монумэнты там горда ў неба выш;—
у нас — забыты ў полі гдзесь курган
ды ля дарогі дрэмле стары падгніўшы
крыж...—
— — — — — — — — — — —
Твой, Беларусь, пачаўся **Renaissance** цяпер!
Хто ведае, што створыць Твой народ?!..
Хоць красак тут не шмат, хоць край, як
доля, шэр,—
звархнуўшыся раз, дух пойдзе ўсё ўпярод...

І хоць з-за аблакоў пахмурна сьвеціць сонцо,
і шчасьця-радасьці ня знойдзеш тут нідзе,—
загляне Доля йшчэ і ў нашае ваконцо,
і Кветка-Папараць яшчэ нам зацьвіце!..

**Юры Монвід**

# З газэт.

Беларуская газета „**Звон**“ піша гэтак:

„Шмат польскіх газэт, асабліва віленскіх, ахвотна паведамляе праз сваіх дапісчыкаў, што беларускае селянство тых, ці іншых вёсак выносіць пастановы аб тым, што яны — палякі і хочуць, каб іх далучылі да Польшчы. Допісы аб такіх пастановах зычаць вясёлым тонам, а гэта ўжо сьведчыць

пра тое, што і тыя газэты, каторыя іх друкуюць, думаюць, што гэта добра і хораша. Але мы мусім сказаць, што гэта зусім нядобра і няхораша. Гэта мы кажам, каб захаваць нашы прыязныя адносіны з польскім народам, каб заўчасу ухіліцца ад прыкрых непаразуменьняў у будучыне і каб дружна і згодна ісьці да супольнага вольнага жыцьця. І кажам, што радасьць вышэй памянёных дапісчыкаў надарэмная і вельмі, вельмі шкадлівая. Надарэмная затым, што з гэтага нічога ня будзе, а шкодна дзеля таго, што падманывае польскі народ, і можа ў самым пачатку папсаваць тые сяброўскія адносіны, якія цяпер усьпешна наладжваюцца паміж беларускай і польскай інтэлігэнцыяй.

З народам нашым, пры асаблівай хэнці, можна рабіць, што хочаш. Ён цёмны і нацыянальна несьвядомы. Да гэтага давяла яго горкая доля. На сваём цяжкім гістарычным шляху ён страціў усё, — школу, асьвету, законы, культуру, інтэлігэнцыю і дайшло да таго, што ён навет імя свайго забыўся і стаўся „простм, тутэйшым" чалавекам з Забранага краю. Ён памятае, што яго забралі, але хто—ня ведае. Ня ведае, што гэта Масква яго давяла да становішча немаўляці.

З такім станам людзей можна рабіць усё, што забажаецца, абы была ахвота і рэяльная магчымасць. Тут ужо запраўды, хто „кій ўзяў, той і капрал".

Стацьця канчаецца гэтакімі вывадамі:

„Іншае рады няма, як пусьціць у народ яго ўласную інтэлігэнцыю. Яна, як найлепш, паразумеецца з ім, адчыніць яму вочы і вывядзе на запраўдную дарогу.

Польская інтэлігэнцыя і політычныя дзеячы, пережыўшыя разбор свае Бацькаўшчыны і нацыянальны гвалт, павінны зразумець, што ўсё-ж роўна, раней ці пазней, народ прачхнецца і усьвядоміцца. І, зразумеўшы, што яго падманулі ў пору яго нацыянальнага дзяцінства, — канец-концам з ім можа стацца тое, што цяпер, на нашых вачох, робіцца ў В. Сылезіі паміж пакрыўджаным польскім насяленьнем і немцамі.

Нам трэба супольнага, братэрскага сужыцьця, а гэта магчыма толькі тагды, калі народ сьвядома чыніць політычныя крокі і выбірае сабе сябра".

### З УКРАІНСКІХ ГАЗЭТ.

Львоўская ўкраінская газэта „Вперед" між інш. гэтак піша аб незалежнасьці Украіны і аб адносінах да Расеі:

„Толькі тагды, калі ў сэрцы Украіны, у Кіеві, заб'е магутны пульс незалежнага, украінскага політычнага жыцьця, толькі тагды гісторыя Украіны і ўсяго ўсходу Эўропы выйдзе з цяперашняга хаосу на ясны пэўны шлях. Ня вывядзе яе на гэты шлях жалезная, крывая дыктатура саветаў, абапёртая на штыках, якая робіць Кіеў форпостом рэвалюцыйнай дэмократыі. За неясную, неабмежэванаю, аморфнаю рэспублікай саветаў відаць мінуўшую „единую, недѣли-

---

ФРАНЦІШК АЛЕХНОВІЧ.

# НА ВЁСЦЫ.

## Ідыльлічны абразок у 2-х акт.

### Зьява II.

Стасюк, Цыганка.

**Цыганка** (уходзіць). Чаго сумны, хлапец? Чаго зажурыўся, маладзец? Хочаш—паваражу табе, ўсю праўду будзеш ведаць! Хочаш з рукі, дык з рукі, хочаш с карт, дык с карт, ўсю праўду скажу, нічога не затаю... Катора дзяўчына цябе любіць, катору ты, малец, любіш,—ўсё ведаю, ўсё скажу... Хочаш, паваражу...

**Стасюк** (працягівае да яе далонь). Варажы.

**Цыганка** (разглядаючы руку Стасюка гаворыць манотонна, сьпеўна. Жыць будзеш доуга... аж да сьмерці. Калі-ж прыйдзе пара памерці, жыцьця, ня будзеш праклінаць, бо шчасьце у жыцьці будзеш знаць,—бо вельмі шчасьліў будзеш ты!... Эх!.. не маркоцься, ня тужы! Вось гэта лінія, што ідзе тут у права на тваей руцэ, гэта якраз на то указ, што вельмі будзеш ты багат, мець будзеш многа зямлі, хат, у цябе будзе усяго шмат!.. Эй, не маркоцься-жа, Стасюк! на што?—ня трэба гэных мук! на што журыцца без патрэбы.

**Стасюк**. Дзе цяпер Ганулька?

**Цыганка**. А... дзе дзяўчына твая? — дык яна блізка адсюль, надта блізка, ні раз я нават варажыла ей...

**Стасюк** (ускочыўшы). Дзе яна? Дзе?

**Цыганка**. Пачэкай-жаж! Дай-жэ мне за варажбу...

**Стасюк** (выймае зза пазухі вузелок з грашыма і кідае цыганцы). Вос ўсе, што маю... Бяры! і кажы мне, дзе яна?

**Цыганка** (хаваючы грошы). Я ўжо для цябе буду старацца... Калі хочаш, дык навет любчыку дастану.

мую Россію,“ на якую засуд сьмерці выдала ўсесьветная вайна, — яна ёсьць пярэчэньне вольнага разьвіцьця народаў усходняй Эўропы, пярэчэньне дэмократыі. Неясная, неабмежэваная ўсерасейская рэспубліка — асабліва грозная і нябаспечная для народаў на ўсходзе Эўропы, якія цяпер зрываюцца да політычнага жыцьця, якія першна-перш хочуць запэўніць сабе волю і незалежнасьць.

Што і казаць аб Денікіне, аб усей імпэрыялістычнай, захватнай Расеі Сазонавых і Маклаковых, да якой з гэтакімі сымпатыямі зварочываецца ўся эўропэйская рэакцыя?! Тутака яўна, сьвядома выступае даўнішняя Расея, якая была турмой народаў. Уваскрэшэньне гэтай Расеі, як-бы яна сябе не называла, якія-б яна не прыбірала формы, — гэта сьмерць для вызваленых з царскай няволі народаў, гэта вечнае страхацьцё для дэмократыі, згоды і для соцыялізма.“

**ВЯЛІКІЯ САЛЕЧНІКІ.**

Korespadent „Nasz'aha Kraj,a“ піша з В. Салечнік між інш. гэта:

„Тутэйшыя землеўласнікі дрэнна абходзяцца з селянствам. Калі хто з селян вывязе з лесу воз моху, які можа варты 6 або 7 руб., то яму кажуць заплаціць 150 р. Здараецца, што як зловяць каня ў шкодзе, дык пакуль аддадуць яго мужыку, працуюць ім праз два тыдні, а-ж ведама, колькі цяпер варта конская работа ў дзень.

Паны тутэйшыя, хаця багатыя, ніякіх ані прытулкаў, ані копэратываў, ані нічога іншага не наладжываюць.

# БЕЛАРУСЬ.

## МЕНСК.

**Валюта.** Паявіўся загад у справе валюты, паводле каторага: 100 ост. мар. = 100 руб. царск. = 287 р. 71 к. думск.
100 р. думск. = 35 р. царск. = 35. ост. мар.
100 ост. мар. = 50 ост. руб.

**За ожнікі.** У Варшаву паехала дэлегацыя на чале з кс. Узасам і п. Дабравольскім у справе замены ўзятых у Менску бальшавікоў на заложнікаў.

**Грашавая падмога.** Польская ўлада дала 1.000.000 руб. падмогі для безработных жалезнадарожнікаў і пачтавікоў.

---

**Стасюк** (я. в.) Кажы мне: дзе яна?!

**Цыганка.** Блізка... Яна ў паноў ў маёнтку. Нідаўна яны прыехалі з места. А калі хочэш, дык я... (гледзячы ў даль). Чэкай!... вось здаецца... Але! гэта яна! Вось там, глядзі! каля лесу Ганулька йдзе...

**Стасюк** (прыгледаючыся. Што? дзе? Гэта-ж якаясь пані!

**Цыганка.** Хэ хэ! Гэта яна. Вось схавайся там за гэты куст, а я зманю яе і прывяду сюды, не кажучы нічога, што ты тут... (выходзе).

**Зьява III.**

Стасюк (адзін).

**Стасюк.** Не разумею... Ці-ж можа быць! Гэта не яна... Гэтая ведзьма пэўне брэша... О, Божэнька ты мой! сэрцо бьецца быццым у клетцы птушка... Страшна мне!.. А вось цыганка ўжо падыходзіць, клічэ яе... ўжо каля яе... гавора нешта... А вось ўжо йдуць! Сюды йдуць! Трэба схавацца! (хаваецца за кулісу).

**Зьява IV.**

Цыганка, Ганулька (ў мястовай опратцы).

**Цыганка** (ідзе наперад). Хадзі, мая харошая, сюды, хадзі — павараджу табе. Дай толькі ручку беленьку сваю... А можа хочаш с карт?—дык с карт... Ня бойся цыганкі ты, хадзі-ж хутчэй са мной сюды...

**Ганулька** (ўходзе за цыганкай).

**Зьява V.**

Ганулька, Стасюк.

**Стасюк** (выбегае, радасна). Ганулька! Вось і я! ізноў каля цябе! Даўно ты тут? Чаму-ж вестачкі ніякай не дала?

**Цыганка** (хітра сьмеючыся ціха выходзе).

**Ганулька.** Ня чапай мяне! Што было, тое прайшло! Таго, што было, болей ня будзе! (хоча ісьці).

**Стасюк** (затрымлівае яе). Ганулька! Чаму?

**Ганулька.** Пусьці мяне!.. Бо так хачу!

**Стасюк.** Ты-ж так-рок інакш казала. Ці-ж ты ўжо забылася?



Менская „Чрэзвычайка“ на Пётропаўлаўскай вул.

## БАРЫСАЎ.

Барысаў перажыў страшныя часіны. Калі пачаліся бoі пад Менскам, тады ўсе ўжо зразумелі, што бальшавіцкі фрон не утрымаецца. Тэррор пачаўся небывалы. Арыштавалі шмат людзей. Людзі пакідалі ў месьці ўсю сваю маемасьць і ўцекалі на вёску, каб ратавацца ад арышта. Даражыня была страшэнная. Самыя жудасьлівыя часіны насталі тады, як польскае войска пачало падыходзіць да Бярэзіны і ўрэшці заняло на правым беразі Новы Барысаў. Бальшавікі пачалі тагды абстрэліваць дамы на беразі ракі і мястэчка.

Нарэшці прыйшоў жаданы час. Польскае войска пачало акружаць бальшавікоў і гэтак прымусіло чырвоную армію выйсьці з места.

Усе ўздыхнулі лягчэй.

## Здагадлівая Баба.

Далі трэці званок, Кандухтор даў сьвісток,
Вось скранулася з мейсца машына...
Пасажыры спішаць сваё мейсцо заняць,
Засаплася бабулька Макрына.
Клапатліва і ёй, каб да хаты парой
Дацягнуцца у вёску з гаршкамі:
Чэрапья везла шмат, бо у часе Каляд
Мелі госьці прыехаць с сватамі.
Распускаючы дым, разышоўся зусім
Гэны поцяг і куляю прэцца.
Слупы з дротам мігцяць, лес і поле ў вёрст пяць
Прамінае ў мінуту, здаецца.
У вагон—дзе зірнуць, — ані носа уткнуць,
Усюды цесна і поўна народу.
Пасажыры сямьёй размаўляюць с сабой;
Мала дбаюць яны аб выгоду.
Шмат цікавых навін разсказаў ні адзін,
Каб чым сьцерці той час у дарозе:
Тут казалі, скуль соль, як шкадліва нам моль
І як цукер нам Англія звозе.
С чаго гоняць смалу, як гаіць лепш скулу,
Што кароў паіць выгадна брагай.
Адзін то, другі то, во плятуць абы што.

---

**Ганулька.** Чаго хочэш? Я-ж выразна кажу: што было, болей ўжо ня вернецца... Ня люблю я ўжо цябе!

**Стасюк.** Ганулька! за што ты крыўдзіш, за што ты мучаеш мяне? Чаму ты такая? Гэта хіба жарты? Хіба ізноў ўсе будзе, як было.

**Ганулька.** Не!

**Стасюк.** Чаму?

**Ганулька.** Бо іншай стала я цяпер. Раней я была мужычка, так як ты. Цяпер я — паненка, а ты — мужык, пастух. Ты мне ўжо не пара. Мне быў-бы сорам знацца цяпер с табой.

**Стасюк** (горка). Але. Я бачу, што ты іншая цяпер. Інакш ты апранута, — паненка, і разам з опраткамі і душа твая перэмянілася... Паганай стала цяпер душа твая!

**Ганулька.** Як ты паважыўся!.. Гэта ты паганы, дурны мужык!

**Стасюк.** Як ўсё гэта зрабілося! як сталося, што ты праз год так перэмянілася?! Зачараваў цябе хто, ці што!

**Ганулька.** Ніякіх тут чараў няма. Я, жывучы ў месьці, папрабавала іншага жыцьця і з мужыкамі ўжо болей жыць ня буду! Я ўжо не тая самая, што раней была. Ты павінен выкінуць з галавы усё, што між намі было.

**Стасюк** (пяе):

Ганулька, я хіба здурэю,
За што столькі мук задаеш!
Любіць цябе я ўжо ня сьмею,
Бо ты як паненка жывеш.

Ты шчасьцем напоўніла душу,
Ты рай мне калісьці дала, —
Забыць цяпер гэта ўсё мушу,
І шчасьця ўжо болей няма.

**Ганулька** (пяе):

Дарма мне гаворыш ўсё гэта,
Любоў бытцым сон ўжо прайшла,

Баба слухае рэчы з увагай.
Усё цікава ёй знаць, дый ня трэба пытаць:
З іх размовы сьвядомасці хваце.
Вось гудзяць, як чмялі, а ў канцы пачалі
Аб прыладах вагона казаці:
Скуль бярэцца той грук, да чаго які крук,
К чаму засоўкі, ручкі, падпоры,
Як што трэба круціць, каб цягло супыніць,
Хаця як будзе бег яго скоры.
І во так той таму, так адзін аднаму,
Хто што здумае, тое і скажэ.
Усе пытаньні, атвет баба лове у сьлед
І на хвільку ані не пыляжэ.
А сама доўгі час пагледала не раз
І ў духу сабе так размышляла:
Гэта-ж добра во знаць, чымсі пеша чэсаць,
Я пярвей гэтай штукі ні знала.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Хутчэй ластаўкі той, поцяг мчыцца стралой,
Ажно стогне — так голасна дышэ;
А вагон, як вазок, толькі збоку-на-бок
Падтрэсае і моцна калышэ.
Слупы з дротам мігцяць, поле, лес, сенажаць...
Ля воч скачуць — хмызьняк і балота,
За балотам зноў луг, далей поле наўкруг...
Бабе надта усё бачыць ахвота:
Пагледае ў вакно. Аж вунь бачыць гумно,
Сваю хату здалёку пазнала.
Не парадзіўшысь с кім, а адумам сваім
(Яна доўга ужо не чэкала),
Ручку з тормазам шась.... Усе вагоны лясь
— лясь...
І цягнік з трашным шумам спыніўся.
Людзі дзівяцца — страх, пацямнела ў вачах,
Ніхто толку ніяк ні дабіўся.
Кандухторы бягуць... Як мурашкі снуюць;
Што такое? — шукаюць прычыны,
Агледаюць цягнік, колы, восі, душнік,
Глядзяць буксы, бандаж і пружыны.
А Макрына — што ёй! Яна лупе мяжой
З пэўнай мінай і ліха ні знае,
Гэта ёй неўздагад — што дала страху шмат,
Яе у хаце ўжо муж дзесь чэкае.

**Альбэрт Паўловіч.**

# КРОНІКА.

## БЕЛАРУСКАЯ РАДА.

12—16 верасьня былі пасяджэньні Цэнтральнай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны. Рада папоўнілася прэдстаўнікамі ад беларускіх віленскіх і краёвых арганізацыяў. Гэтакім чынам уступіло ў Раду 7 новых сяброў, у тым ліку 2 ад селян.

Зроблены перавыбары прэзыдыюма. Рэзультат гэтакі: старшынёй застаўся ізноў Б. Тарашкевіч, віцэ-старшынямі — Кахановіч і Карабач, сэкрэтары—Ластоўскі і Ярэміч.

Вайсковая камісыя папоўнілася адным новым сябрай — Мурашкай. Старшынёй войск. камісыі застаўся Алексюк.

---

У мяне зусім іншая мэта,
Бо шчасьця мне зорка ўзайшла.

Цяпер у пакоях жыву я,
Ґнакш апранаюсь цяпер
І вёска мяне ніякая
Не звабіць жыць у хаце, павер!

(гаворэ): А каб яшчэ кахацца ў пастуху!.. Ха-ха!.. — Сьмех дый толькі! Ці-ж я магу любіць якогась дурнога Стасюка, калі у месьці да мяне панічы залецаюцца!—Ха-ха-ха!.. (іранічна сьмяецца і выходзе)

### Зьява VI.

Стасюк (адзін).

**Стасюк.** Вось чакаў яе!.. Чакаў, як расасонца... Праз цэлы год толькі аб ёй аднэй думаў, ўва снах сваіх толькі яе адну бачыў, не глядзеў навет на іншых дзяўчат, бо ёй аднэй аддаў сваё сэрцо, ўсе свае думкі,—а яна вось як!.. Я пастух, я—дурны Стасюк, я—для яе не пара!.. О, Божа мой! што-ж я вінаваты, што я радзіўся ў вёсцы! О, чаму-ж я не мястовы паніч!.. О, як страшэнна горка, сумна ў душы!.. Ці варта далей гэтак жыць? — Э, лепш ўжо зусім ня жыць, ніхай ўжо раз уся бяда, усе мукі скончацца!.. (глядзіць ў кулісу). Вось бачу там, пры дарозе стаіць бяроза... Каханенькая! Яна сумна апусьціла ў ніз свае галіны, яна так сама можа маркоціцца, што доля судзіла ей аднэй расьці пры дарозе, аднэй, без пацехі, без вясельля, чакаючы толькі, калі пярун расшчэпіць яе на дзьве паловы, або малец-ласун выпусьціць з яе сокі!.. Бярозанька мая сумненькая! ты адна і я адзін. Мы с сабой шлюб возьмем! (адпярэзаецца). Во павешуся на аднэй з тваіх галін, а ты мяне прыгалубіш, цалуючы мой твар сваймі зялёнымі лісточкамі... І гэтакі канец будзе... (хочэ бегчы. Пры апошніх яго словах ўвайшла **Анелька**. Стасюк яе не бачыў. Анелька раптам хапае Стасюка за руку).

### Зьява VII.

Стасюк, Анелька.

**Анелька.** Стасюк! што ты хочаш рабіць?!
**Стасюк** (вырываючыся ад яе) Пусьці!..

Шмат часу заняла гутарка аб цяперашнім палітычным палажэньні.

Пасьля разгледалася школьная справа. У школьным пытаньні Рада высказалася, што палажэньне беларускіх школ вельмі сумнае, дзеля таго, што польская ўлада ўсюды адчыняе толькі польскія школы, а школа беларуская апынулася за рамкай школьнай сеці. Рада выслала ў Віленшчыну і Горадзеншчыну больш за 100 вучыцялёў на вёскі і дагэтуль, як відаць з паперы акружнога школьнага інспэктара др. Вэнцлаўскага, ні адзін не зацьверджэн.

На месцох паветовыя інспэктары кажуць вучыцелям, што яны зацьвердзяць беларускую школу толькі тады, як будуць зроблены аб гэтым валастныя прыгавары або прыгавары аддзельных вёсак, а каб склікаць дзеля гэтага патрэбныя сходы, вучыцелям не даецца магчымасьці.

У школьнай справе Рада пастановіла зьвярнуцца да загаду усходніх зямель з просьбай устанавіць беларускіх школьных інспэктароў і перэдаць белар. школьную справу школьнаму аддзелу пры Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны.

### БЕЛАРУСКІ ТЭАТР.

Мы ўжо адзін раз ў абшырнай стацьці пісалі аб значэньні для нас гэтакай культурнай установы, якой ёсьць тэатр, і высказывалі свае погляды, які тэатр патрэбны для нас пры цяперашнім нашым палажэньні. Ня будзем цяпер паўтараць нашыя вывады, скажам толькі, што ўжо шмат часу, як ані ў Менску, ані ў Вільні няма беларускага тэатра. Праўда, былі чуткі, што Беларуская Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны маніцца даручыцьаднаму з старых тэатральных працаўнікоў арганізаваць тэатр, аднак няма ведама чаму справа не скранулася з месца.

Чаму? Няўжож нашы дзеячы не дацэніваюць значэньня тэатра? Няўжож яны ня бачуць, што калі цяпер польская „Straż Kresowa“ затапляе ўсю аслабоджэную ад бальшавікоў Беларусь рознымі сваімі выдавецтвамі, калі ў Вільні нідаўна былі ажно тры тэатры (адзін прафэсыянальны і 2 аматорскія), калі ўжо навет у Менск маняцца прывезьці нейкую польскую трупу,—што мы робім, каб даць сваім беларускім массам духоўную страву? Не скажам: нічога, — але вельмі, вельмі мала. І пасьля гэтага няма дзіва, што беларускія массы гэтак лёгка паддаюцца полёнізацыі і, начапіўшы „ожэлэк“ на шапку, адрэкаюцца ад сваей прыналежнасьці да беларускага народа, вырэкаюцца сваей мовы.

Трэба даць народу відомы знак нашай культуры, а гэтакім знакам будзе—народны тэатр. Тое, чаго праз сьцяг гадоў ня зробіць друкаванае слова, зробіць праз адзін год жывое слова—тэатр. Адпаведна дапасаваны с патрыатычнай тэндэнцыяй рэпэртуар можа шмат падняць нацыянальнае ўсьведамленьне. І тады тэатр, сьмела можам сказаць, будзе той кузьняй, што выкоўвае дух народа...

---

**Анелька** (гавора скора). Мой бедненькі! мой залаценькі! Кінь гэта... ня трэба!.. Я табе усю праўду скажу: Ганульку ня трэба любіць... яна цябе ніколі не любіла... Яна заўсёды толькі сьмеялася с цябе... Я ня раз чула, як яна паміж дзяўчат сьмеялася ды жартавала с цябе, называючы цябе: дурны Стасюк... Спытайся: усе гэтае самае скажуць...

**Стасюк.** А... на што-ж ты усё гэта цяпер мне гаворыш?

**Анелька.** Бо... бо... я люблю цябе, саколік мой! Даўно ўжо люблю і мучылася... Нічога не казала, бо ты любіў яе — Ганульку. Ажно цяпер не стрывала.. Стасюк! мне нічога ня трэба. Ты ня любі мяне, нічога не кажы да мяне, толькі кінь самагубную думку і пазволь ад часу да часу хаця здалёчку глядзець на цябе, саколік мой!

**Стасюк** (абыймае яе). Анелька!..

**Анелька** (лёгка адпіхаючы яго). Ня трэба, не ня трэба, Стасюк! Ты-ж мяне ня любіш, дык на што?..

*За сцэнай удалёк хор пачынае пяяць.*

**Стасюк.** За сэрцэйка твае галубінае, за душу тваю шчырую, за вочы твае сумненькія—люблю цябе мая Анелечка!

**Анелька** (з радасьцю). Ах, Стасюк! ці-ж гэта праўда?

**Стасюк.** Праўду казалі, што я дурны. Я быў дурны, бо, бачучы цябе што дня, толькі цяпер палюбіў цябе... Чуеш, Анелька, там людзі пяюць песьню, сваю песьню, каторую іх бацькі і дзяды пеялі... Яны не адрэкаюцца ні ад сваёй песьні, ні ад сваёй вёскі... Вось будзем, Анелька, усё жыцьцё жыць тутака на нашым родным загоне, будзем разам глядзець на захад нашага сонца, будзем нашы вясковыя вопраткі насіць, нашы простыя песьні пяяць... Нам ня трэба чужога, калі нашае роднае так сама прыгожае, а мо і прыгажэйшае за чужое. Будзем тут свой век дажываць, любіць адзін аднаго і любіць сваю родную зямельку, як родную маці... Пойдзем, Анелька, да людзей, разам з імі песьню пяяць і расказаць усім аб нашым шчасьці... Пойдзём, мая ты — пахам сенажаці, шопатам кветак пры захадзі сонца пасватаная!...

**Анелька** (туліцца да яго). Пойдзем, Стасюк!..

*Памалу выходзяць. Песьня за сцэнай робіцца галасьнейшай. Памалу зачыняецца заслона.*

**КАНЕЦ.**

На жаль, тыя хто кіруе нашаё нацыянальнай і палітычнай работай не разумеюць, або не хацяць сьцяміць значэньня тэатра і справа стаіць на мейсцы.

**ВУЧЫЦЕЛЬСКІЯ КУРСЫ.**

22 верасня пачнуцца новыя беларускія вучыцельскія курсы. На курсы прыймаюцца беларусы—народныя вучыцелі і асобы з сярэднім абразаваньнем. Прозьбы прыймае канцэлярыя цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны: Вострабрамская 9.

## У ДАРОЗЕ НА „КРЭСЫ".

...Dalsze wojenne czyny na wschodzie są bezcelową awanturą...

..Wszystkich dzialaczy bialoruskich możnaby zmieścić na jednej kanapie...

З эндэцкіх газэт.




На воз злажыўшы ўсе манаткі,
Варочаюсь да сваей хаткі.
Бальшавікоў ўжо няма, —
Там панаваць зноў буду я.

Толькі вось сьцяміць не магу —
Навошта, на якое ліха,
Калі ў маёнтку маім ціха,
Жаўнер наш прэцца на Дзьвіну?..

Узялі Вільню, Менск—і годзі!
А пёрціся далей — чаго?
Кажуць аб іншым нам народзе —
Брахня! няма, няма яго!

Толькі ёсьць Польшча і Расея,
А Беларусь?—э! гэта жарты!
Хто гэную брахню тут сее,
Той злы, дурны або упарты.

Усё, што ўзялі, мы прылучым,
Па польску гутарыць навучым... —
Да Польшчы ўсё!—вось нашэ гасло, —
Усё пойдзе гладка, як па маслу.

Каб Беларусь была на мапе —
Ніколі гэтага ня будзе!
Бо гдзе-ж іх сіла?—жменька людзі,
Мы іх пасодзім... на канапе.

Навошта ідуць нашы войскі
Далей на ўсход, за Бяразіну? —
На мой шляхоцкі розум свойскі:
Ваеннаго ўжо годзі ч ы н у.

Навошта? на якое ліха?
Калі ў маім маёнтку ціха...

**Пранук Лябёда.**



**Рэдакцыя і Адміністрацыя**: Бакшта 11. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Ваеннаю цэнзураю.

Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Квашэльная 23.